


Пралетары ўсіх краіў, злучайцеся!






# БЮЛЯТЭНЬ НАРОДНЫХ КАМІСАРЫЯТАЎ І ЦЭНТРАЛЬНЫХ УСТАНОЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР

Выдаецца Кіраўніцтвам Спраў СНК і Эканамічнага Савету БССР
г. Менск, Чырвонаармейская вул № 3 — Падпісная плата на год 5 р. і на 1/2 г. 2 р. 50 к.
VIII ГОД ВЫДАНЬНЯ

№ 11 (133) | 10 верасьня 1932 г. | № 11 (133)




## ЗЬМЕСТ



## Па Народнаму Камісарыяту Земляробства БССР:

Зацьвярджаю.
Народны Камісар Земляробства БССР
Масюкоў.
1 верасьня 1932 г.

### 34. Статут Гомельскага Дзяржаўнага Мяса-малочнага прамысловага трэсту „Гоммясмалпрамтрэст“.

1. У мэтах далейшага разгортваньня сацыялістычнай жывёлагадоўлі, стварэньня моцнай кармавой базы і на гэтай аснове шпаркага разгортваньня будаўніцтва буйных малочных таварна-жывёлагадоўчых савецкіх гаспадарак з закончаным абаротам стада, сталага матачнага складу кароў, выкананьня пляну здачы дзяржаве таварнай прадукцыі, лепшага аперацыйна-дыфэрэнцыяванага кіраўніцтва, палепшаньня рабочага забясьпечаньня і разгортваньня гандлю арганізуецца Гомельскі Дзяржаўны Мяса-малочны прамысловы трэст рэспубліканскага значэньня, пад назвай Гоммясмалпрамтрэст, які зна-

ходзіцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і дзейнічае на падставе гэтага статуту.

2. У склад Трэсту ўваходзяць савецкія жывёлагадоўчыя гаспадаркі з маючыміся пры іх вытворчымі прадпрыемствамі і навучальнымі ўстановамі, сьпіс якіх далучаецца.

3. Для ажыцьцяўленьня задач, паказаных у арт. 1, Трэст:

а) ажыцьцяўляе кіраўніцтва ўваходзячымі ў яго сыстэму гаспадаркамі, надаючы ім спэцыяльны малочна-жывёлагадоўчы напрамак, як галоўнай вядучай галіне гаспадаркі;

б) распрацоўвае мерапрыемствы па ўзбуйненьні існуючых гаспадарак і стварэньні новых, арганізуе спэцыяльныя малочна-жывёлагадоўчыя савецкія гаспадаркі на базе асвоеных зямельных плошчаў, а таксама буйныя вучэбна-паказальныя фэрмы;

в) дапамагае арганізацыі ў калгасах малочна-жывёлагадоўчых фэрм і садзейнічае арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў;

г) прымае ўсе захады да рацыяналізацыі і мэханізацыі вытворчых працэсаў малочных таварных фэрм і ўнядрэньня ў іх апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі;

д) арганізуе прадпрыемствы па перапрацоўцы сельска-гаспадарчай сыравіны (сырамаслазаводы, бровары, крухмальныя заводы, млыны, цагельні і інш. тэхпрадпрыемствы) ў сваіх гаспадарках і садзейнічае арганізацыі іх у навакольных калгасах;

е) прымае меры да поўнага ўкамлектаваньня статку ўваходзячых ў склад Трэста гаспадарак, паводле плянавых заданьняў НКЗ БССР;

ж) прымае неабходныя захады да паляпшаньня прадукцыйнасьці статку, догляду жывёлы, зьніжэньня процанту адыходу ад рознага роду хвароб і нездавальняючага ўтрыманьня жывёлы, павялічэньня тэмпаў прыросту статку, а таксама наглядае за захаваньнем племяннной жывёлы;

з) прымае ўсе захады да поўнай і сваечасовай здачы прадукцыі саўгасамі дзяржаве, не дапускаючы разбазарваньня таварнай прадукцыі;

і) устанаўляе спэцыяльныя прэміі за перавыкананьне пляну здачы прадукцыі паасобнымі саўгасамі і таварнымі фэрмамі;

к) прымае меры для забясьпечаньня ўсяго пагалоўя жывёлы ўласнымі грубымі і сочнымі кармамі, устанаўляе нормы і парадак выдачы кармоў канцэнтраваных і грубых і наглядае за іх выдаткаваньнем, вядзе поўны і сталы вучот кармавых рэсурсаў і складае кармавыя балянсы як па саўгасах, так і па Трэсту.

л) прымае меры да ўстаноўкі паводле зацьверджанага пляну НКЗ БССР сілосных установак, запаўненьня іх сілоснымі кармамі, а таксама да сваечасовага сканчэньня будаўніцтва ў гаспадарках, неабходнага для забясьпечаньня жывёлы адпаведнай колькасьцю жывёламесц;

м) падрыхтоўвае і перападрыхтоўвае патрэбныя кадры спэцыялістаў і кадры масавай кваліфікацыі з лепшых рабочых-ударнікаў саўгасаў і калгасаў;

н) распрацоўвае мерапрыемствы па арганізацыі сацыялістычных форм і мэтадаў працы ў падпарадкаваных гаспадарках, поўнага пераходу на зьдзельшчыну, зьнішчэньні абязьлічкі і наглядае і кантралюе за іх ажыцьцяўленьнем;

о) распрацоўвае мерапрыемствы па забясьпечаньні гаспадарак патрэбнай рабсілай і кантралюе іх выкананьне, а таксама арганізуе мерапрыемствы па разгортваньні рабочага вынаходніцтва і рацыяналізацыі вытворчых працэсаў гаспадаркі;

п) арганізуе жывы інструктаж, абсьледваньне, праверку і кантроль працы на мясцох, вывучае па даных абсьледваньняў і другіх матарыялах становішча працы на мясцох і распрацоўвае практычныя мерапрыемствы па палепшаньні кіраўніцтва саўгасаў, сувязі, жывога інструктажу і плянаваньня працы на мясцох.

4. Трэст складае самастойную гаспадарчую адзінку і дзейнічае на падставе гаспадарчага разрахунку ў адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі, зацьверджанымі Народным Камісарыятам Земляробства БССР. Ад дня рэгістрацыі Трэст мае правы юрыдычнае асобы.

5. За свае абавязацельствы Трэст адказвае толькі той сваёю маемасьцю, якая, паводле чынных законаў, можа спаганяцца. Дзяржава за доўгі Трэсту не адказвае, а таксама на маемасьць Трэсту ня можа накіроўвацца якое-небудзь спагнаньне за дзяржаўныя даўгі і абавязацельствы.

6. Трэст можа рабіць па ўсёй тэрыторыі Саюзу ССР усе апярацыі, у тым ліку і гандлёвыя, якія патрэбны для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у арт. 1 гэтага статуту.

У замежным гандлі Трэст удзельнічае ў парадку, устаноўленым адпаведнымі законамі.

7. Трэст уладае, карыстаецца і распараджаецца перададзенай яму маемасьцю і абкладаецца дзяржаўнымі і мясцовымі падаткамі і зборамі паводле агульных законаў, апроч выдаткаў паказаных у Палажэньні аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г. і ў спэцыяльных законах.

8. Бясплатнае адбіраньне ад Трэста якой-небудзь маемасьці дазваляецца толькі паводле правіл, паказаных у арт. 7 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

9. У дагаворныя адносіны Трэст абавязан уступаць выключна з дзяржаўнымі установамі і прадпрыемствамі і каперацыйнымі арганізацыямі, якія ўдзельнічаюць як контрагенты.

10. Ва ўсіх выпадках, не прадугледжаных гэтым статутам, Трэст дзейнічае паводле Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г., а таксама паводле чынных законаў.

11. Трэст мае пячатку з дзяржаўным гэрбам і сваёй назваю.

**II. Статутны капітал Трэсту.**

12. Статутны капітал Трэсту вызначаецца Наркамземам па ўзгадненьні з Наркамфінам БССР арыентыровачна да зацьверджаньня балянсу за першы аперацыйны пэрыод дзейнасьці Трэсту, пасьля чаго статутны капітал Трэсту будзе ўдакладнены. Перададзеныя Трэсту паводле

арт. 2 гэтага статуту гаспадаркі ў статутны капітал Трэсту не залічваюцца.

### III. Кіраўніцтва Трэсту, яго правы і абавязкі.

13. Для кіраваньня Трэстам Народны Камісарыят Земляробства БССР прызначае Дырэктара і яго намесьнікаў тэрмінам на 2 гады.

Да зыходу тэрміну паўнамоцтва Дырэктар і яго намесьнік могуць звальняцца НКЗ БССР.

14. Кіраўніцтва Трэсту знаходзіцца ў г. Гомелі.

15. Дырэктар Трэсту, паводле гэтага статуту і чынных законаў, пад агульным наглядам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР вядзе самастойна ўсю арганізацыйную і адміністрацыйную працу Трэста, кіруючы справамі і маемасьцю, што знаходзіцца ў яго распараджэньні і робячы ўсе дагаворы і апярацыі, якія належаць да кампэнтэнцыі Трэсту.

16. Да кампэтэнцыі дырэктара, у паасобку, належыць:

а) складаньне і паданьне ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня вытворча-фінансавага пляну і плянаў капітальнага рамонту, а таксама плянаў будаўніцтва новых вытворчых прадпрыемстваў, даабсталяваньня і пераабсталяваньня існуючых;

б) калі Народным Камісарыятам Земляробства БССР ня будзе зацьверджаны вытворча-фінансавы плян Трэсту да пачатку апэрацыйнага году, то дырэктар Трэсту да зацьверджаньня пляну ажыцьцяўляе вытворчую дзейнасьць паводле складзенага ім пляну;

в) падача для зацьверджаньня ў Народны Камісарыят Земляробства праектаў, важнейшых зьмен зацьверджаных плянаў;

г) складаньне і падача ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня пэрыядычных справаздач і балянсаў, праектаў разьмеркаваньня прыбыткаў і папаўненьня страт;

д) арганізацыя касы, вядзеньне справаздачнасьці паводле ўстаноўленай сыстэмы справаводства;

е) найманьне і звальненьне служачых і рабочых цэнтральнага апарату, заключэньне каляктыўных і паасобных працоўных дагавароў і паданьне ў Наркамзем БССР на зацьверджаньне аб назначэньні або звальненьні дырэктароў саўгасаў, якія ўваходзяць у склад Трэсту, паведамленьне НКЗ БССР аб прызначэньні і звальненьні намесьнікаў дырэктароў саўгасаў;

ж) найманьне і здача ў арэнду і набываньне будынкаў, а таксама набываньне праў забудоўкі.

Дамы, пабудаваныя за кошт фонду палепшаньня быту рабочых і служачых, здаюцца ў арэнду з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР;

з) адчужэньне і застава старых і нягодных будынкаў, пабудоў і абсталяваньня ў межах да 100.000 р. (у кожным выпадку), а звыш гэтай сумы—з дазволу Наркамзему БССР На адчужэньне і заставу права забудоўкі патрэбен абавязковы дазвол НКЗ БССР;

і) узяцьце і здача ў арэнду абсталяваньня і дапаможных прадпрыемстваў на тэрмін да 6 год, а звыш гэтага тэрміну—з дазволу

НКЗ БССР; узяцьце і здача ў арэнду вытворчых прадпрыемстваў робіцца толькі з дазволу НКЗ БССР, незалежна ад тэрміну;

к) выдача і прыняцьце для аплаты грашовых абавязацельстваў;

л) заключэньне ўсякіх патрэбных для ажыцьцяўленьня мэт Трэсту згод, актаў і дагавораў, у тым ліку дагавораў падраду і пастаўка і выдача даручэньняў;

м) удзел з дазволу НКЗ БССР у арганізацыі сындыкатаў акцыйных (паявых таварыстваў) і інш. гандлёва-прамысловых аб'яднаньняў, набыцьцё іх акцый і паёў, а таксама ўдзел у сындыкатных кампаніях і таварыствах, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбытку, калі іх задачы адпавядаюць мэтам, паказаным у арт. 1 гэтага статуту;

н) арганізацыя раздробнай гандлёвай сеткі для продажу прадукцыі Трэсту, пры захаваньні ўмоў, паказаных у законе;

о) прававаньне на судзе і прадстаўніцтва ў асобе дырэктара, або яго намесьніка, на падставе толькі гэтага статуту, без прадстаўленьня асобнага паўнамоцтва, ва ўсіх адміністрацыйных установах і службовых асоб.

17. Парадак падпісваньня выходзячых з Трэсту папер устанаўляецца Дырэктарам. Усякія дагаворы, згоды, абавязацельствы, даручэньні падпісваюцца Дырэктарам або яго намесьнікам.

Дырэктар Трэсту і яго намесьнікі маюць права ўпаўнаважваць даручэньнем кожнага супрацоўніка Трэсту для падпісваньня тых або іншых дакумантаў. Дакуманты грашовага характару сьцьвярджаюцца Галоўным Бухгальтарам Трэсту.

Гадавыя справаздачы і балянсы падпісваюцца Дырэктарам або яго Намесьнікам і кіраўніком ФУС.

18. Дырэктар і яго намесьнікі павінны ўжываць усе захады для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у гэтым статуце, і прыцягваюцца паводле чынных законаў да дысцыплінарнай, крымінальнай і грамадзянскай адказнасьці за цэласьць даручанай маемасьці і гаспадарчае вядзеньне спраў.

### IV. Кіраваньне вытворчымі прадпрыемствамі, якія ўваходзяць у склад Трэсту

19. Кіраўніцтва паасобнымі вытворчымі прадпрыемствамі, што ўваходзяць у склад Трэсту (арт. 2), ажыцьцяўляюцца дырэктарамі апошніх, якія дзейнічаюць паводле асобнага палажэньня аб кіраваньні даным прадпрыемствам, зацьверджанага Дырэктарам Трэсту і на падставе выданай дырэктарам Трэсту даверанасьці.

### V. Спэцыяльныя капіталы Трэсту і прыбытак.

20. Апроч статутнага капіталу ўтвараюцца:

а) амартызацыйны капітал,

б) капітал пашырэньня прадпрыемстваў,

в) фонд палепшаньня быту рабочых і служачых,

г) фонд садзейнічаньня вынаходніцтву,

д) фонд садзейнічаньня сацыялістычнаму спаборніцтву,

е) фонд прэміраваньня за рацыяналізатарскія прапановы.

Гэтыя капіталы ўтвараюцца і прызначаюцца на паказаныя мэты і выдаткоўваюцца ў парадку і на падставе спэцыяльных законаў.

21. Амартызацыя маемасьці Трэсту робіцца паводле арт. арт. 44 і 45 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

22. Вызначэньне разьмераў прыбыткаў і страт, разьмеркаваньне прыбыткаў і вызначэньне адлічэньняў ад прыбыткаў у спэцыяльныя капіталы і ў даход дзяржавы, папаўненьне страт, а таксама выдаткаваньне спэцыяльных капіталаў робіцца паводле арт. арт. 48—49 таго-ж Палажэньня.

### VI. Справаздачнасьць Трэсту і рэвізія яго дзейнасьці.

23. Штогод, не пазьней як праз тры месяцы пасьля заканчэньня аперацыйнага году, які лічыцца з 1 студзеня па 31 сьнежня, дырэктар падае ў НКЗ БССР для разгляду і зацьверджаньня складзеныя паводле ўстаноўленых законом правіл справаздачу, бялянс і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт, а таксама праект папаўненьня страт і падзелу прыбыткаў паводле палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

Адклад паданьня справаздач і балянсаў дазваляецца ў парадку, прадугледжаным правіламі публічнай справаздачнасьці.

24. Зацьверджаныя балянсы і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт Трэсту публікуюцца Дырэктарам у парадку, устаноўленым правіламі публічнай справаздачнасьці.

25. Рэвізія дзейнасьці Трэсту ажыцьцяўляецца НК Земляробства БССР. Дырэктар павінен паказваць належным органам НКЗ БССР для агляду ўсе кнігі і дакуманты, справы і перапіску і рабіць ім усякую дапамогу пры рэвізіі і абсьледваньні дзейнасьці Трэсту.

26. Апроч выпадкаў, дакладна вызначаных чыннымі законамі, іншыя органы, апроч НКЗ БССР, маюць права ў межах сваёй кампэтэнцыі даваць кіраўніку Трэсту паказаньні і патрабаваць ад яго паданьня справаздач і зьвестак ня інакш, як праз Наркамзем БССР.

### VII. Зьмены Статуту Трэсту.

27. Павялічэньне або зьмяншэньне разьмеру статутнага капіталу або іншыя зьмены ў гэтым статуце робяцца паводле арт. арт. 11 і 14 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

### VIII. Спыненьне дзейнасьці Трэсту.

28. Трэст спыняе сваю дзейнасьць ліквідацыяй, далучэньнем або падзелам, паводле арт. арт. 55—64 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

---

Зацьвярджаю.
Народны Камісар Земляробства БССР
Масюкоў.
1 верасьня 1932 г.

# 35. СТАТУТ

## Віцебскага Дзяржаўнага малочна-прамысловага трэсту „Віцмалпрамтрэст".

1. У мэтах далейшага разгортваньня сацыялістычнай жывёлагадоўлі, стварэньня моцнай кармавой базы і на гэтай аснове шпаркага разгортваньня будаўніцтва буйных малочных таварна-жывёлагадоўчых савецкіх гаспадарак з закончаным абаротам стада, сталага матачнага складу кароў, выкананьня пляну здачы дзяржаве таварнай прадукцыі, лепшага аперацыйна-дыфэрэнцыяванага кіраўніцтва, палепшаньня рабочага забясьпечаньня і разгортваньня гандлю арганізуецца Віцебскі Дзяржаўны малочна-прамысловы трэст рэспубліканскага значэньня, пад назвай „Віцмалпрамтрэст", які знаходзіцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і дзейнічае на падставе гэтага статуту.

2. У склад Трэсту ўваходзяць савецкія жывёлагадоўчыя гаспадаркі з маючыміся пры іх вытворчымі прадпрыемствамі і навучальнымі ўстановамі, сьпіс якіх далучаецца.

3. Для ажыцьцяўленьня задач, паказаных у арт. 1, Трэст:

а) ажыцьцяўляе кіраўніцтва ўваходзячымі ў яго сыстэму гаспадаркамі, надаючы ім спэцыяльны малочна-жывёлагадоўчы напрамак, як галоўнай вядучай галіне гаспадаркі;

б) распрацоўвае мерапрыемствы па ўзбуйненьні існуючых гаспадарак і стварэньні новых, арганізуе спэцыяльныя малочна-жывёлагадоўчыя савецкія гаспадаркі на базе асвоеных зямельных плошчаў, а таксама буйныя вучэбна-паказальныя фэрмы;

в) дапамагае арганізацыі ў калгасах малочна-жывёлагадоўчых фэрм і садзейнічае арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў;

г) прымае ўсе захады да рацыяналізацыі і мэханізацыі вытворчых працэсаў малочных таварных фэрм і ўнядрэньня ў іх апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі;

д) арганізуе прадпрыемствы па перапрацоўцы сельскагаспадарчай сыравіны (сырамаслазаводы, бровары і крухмальныя заводы, млыны, цагельні і інш. тэхпрадпрыемствы) ў сваіх гаспадарках і садзейнічае арганізацыі іх у навакольных калгасах;

е) прымае меры да поўнага ўкамплектаваньня статку ўваходзячых у склад Трэста гаспадарак, паводле плянавых заданьняў НКЗ БССР;

ж) прымае неабходныя захады да палепшаньня прадукцыйнасьці статку, догляду жывёлы, зьніжэньня проценту адыходу ад рознага рода хвароб і нездавальняючага ўтрыманьня жывёлы, павялічэньня тэмпаў прыросту статку, а таксамама наглядае за захаваньнем племяннай жывёлы;

з) прымае ўсе захады да поўнай і своечасовай здачы прадукцыі саўгасамі дзяржаве, не дапускаючы разбазарваньня таварнай прадукцыі;

і) устанаўляе спэцыяльныя прэміі за перавыкананьне пляну здачы прадукцыі паасобнымі саўгасамі і таварнымі фэрмамі;

к) прымае меры для забясьпечаньня ўсяго пагалоўя жывёлы ўласнымі грубымі і сочнымі кармамі, устанаўляе нормы і парадак выдачы кармоў канцэнтраваных і грубых і наглядае за іх выдаткаваньнем, вядзе поўны і сталы вучот кармавых рэсурсаў і складае кармавыя балянсы як па саўгасах, так і па Трэсту;

л) прымае меры да ўстаноўкі паводле зацьверджанага пляну НКЗ БССР сілосных установак, запаўненьня іх сілоснымі кармамі, а таксама да своечасовага сканчэньня будаўніцтва ў гаспадарках, неабходнага для забясьпечаньня жывёлы адпаведнай колькасьцю жывёламесц;

м) падрыхтоўвае і перападрыхтоўвае патрэбныя кадры спэцыялістаў і кадры масавай кваліфікацыі з лепшых рабочых-ударнікаў саўгасаў і калгасаў;

н) распрацоўвае мерапрыемствы па арганізацыі сацыялістычных форм і мэтадаў працы ў падпарадкаваных гаспадарках, поўнага пераходу на зьдзельшчыну, зьнішчэньні абязьлічкі і наглядае і кантралюе іх ажыцьцяўленьне;

о) распрацоўвае мерапрыемствы па забясьпечаньні гаспадарак патрэбнай рабсілай і кантралюе іх выкананьне, а таксама арганізуе мерапрыемствы на разгортваньні рабочага вынаходніцтва і рацыяналізацыі вытворчых працэсаў гаспадаркі;

п) арганізуе жывы інструктаж, абсьледваньне, праверку і кантроль працы на мясцох, вывучае па даных абсьледваньняў і другіх матарыялах становішча працы на мясцох і распрацоўвае практычныя мерапрыемствы па палепшаньні кіраўніцтва саўгасаў, сувязі, жывога інструктажу і плянаваньня працы на мясцох.

4. Трэст складае самастойную гаспадарчую адзінку і дзейнічае на падставе гаспадарчага разрахунку у адпаведнасьці з плянавымі заданьнямі, зацьверджанымі Народным Камісарыятам Земляробства БССР. Ад дня рэгістрацыі Трэст мае правы юрыдычнай асобы.

5. За свае абавязательствы Трэст адказвае толькі тою сваею маемасьцю, якая паводле чынных законаў, можа спаганяцца. Дзяржава за даўгі Трэсту не адказвае, а таксама на маемасьць Трэсту ня можа накіроўвацца якое-небудзь спагнаньне за дзяржаўныя даўгі і абавязацельствы.

6. Трэст можа рабіць на ўсёй тэрыторыі Саюзу ССР усе апярацыі, у тым ліку і гандлёвыя, якія патрэбны для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у арт. 1 гэтага статуту.

У замежным гандлі Трэст удзельнічае ў парадку, устаноўленым адпаведнымі законамі.

7. Трэст уладае, карыстаецца і распараджаецца перададзенай яму маемасьцю і абкладаецца дзяржаўнымі і мясцовымі падаткамі і зборамі паводле агульных законаў, апроч выдаткаў, паказаных у

Палажэньні аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г. і ў спэцыяльных законах.

8. Бясплатнае адбіраньне ад Трэста якой-небудзь маемасьці дазваляецца толькі паводле правіл, паказаных у арт. 7 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 года.

9. У дагаворныя адносіны Трэст абавязан уступаць выключна з дзяржаўнымі установамі і прадпрыемствамі, каперацыйнымі арганізацыямі, якія ўдзельнічаюць як контрагенты.

10. Ва ўсіх выпадках, не прадугледжаных гэтым статутам, Трэст дзейнічае паводле палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г., а таксама паводле чынных законаў

11. Трэст мае пячатку з дзяржаўным гэрбам і сваёю назваю.

### II. Статутны капітал Трэсту.

12. Статутны капітал Трэсту вызначаецца Наркамземам па ўзгадненьні з Наркамфінам БССР арыентыровачна да зацьверджаньня балянсу за першы аперацыйны пэрыяд дзейнасьці Трэсту, пасьля чаго статутны капітал Трэсту будзе ўдакладнен. Пераданыя Трэсту паводле арт. 2 гэтага статуту гаспадаркі ў статутны капітал Трэсту не залічваюцца.

### III. Кіраўніцтва Трэсту, яго правы і абавязкі.

13. Для кіраваньня Трэстам Народны Камісарыят Земляробства БССР прызначае Дырэктара і яго намесьнікаў тэрмінам на 2 гады.

Да зыходу тэрміну паўнамоцтва Дырэктар і яго намесьнікі могуць звальняцца НКЗ БССР.

14. Кіраўніцтва Трэсту знаходзіцца ў г. Віцебску.

15. Дырэктар Трэсту, паводле гэтага статуту і чынных законаў пад агульным наглядам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР, вядзе самастойна ўсю арганізацыйную і адміністрацыйную працу Трэста, кіруючы справамі і маемасьцю, што знаходзіцца ў яго распараджэньні і робячы ўсе дагаворы і апярацыі, якія належаць да кампэтэнцыі Трэсту.

16. Да кампэтэнцыі дырэктара, у паасобку належыць:

а) складаньне і паданьне ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня вытворча-фінансавага пляну і плянаў капітальнага рамонту, а таксама плянаў будаўніцтва новых вытворчых прадпрыемстваў, даабсталяваньня і пераабсталяваньня існуючых;

б) калі Народным Камісарыятам Земляробства БССР ня будзе зацьверджаны вытворча-фінансавы плян Трэсту да пачатку аперацыйнага году, то дырэктар Трэсту да зацьверджаньня пляну ажыцьцяўляе вытворчую дзейнасьць паводле складзенага ім пляну;

в) падача для зацьверджаньня ў Народны Камісарыят Земляробства праектаў важнейшых зьмен зацьверджаных плянаў;

г) складаньне і падача ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня пэрыядычных справаздач і балянсаў, праектаў разьмеркаваньня прыбыткаў і папаўненьня страт;

д) арганізацыя касы, вядзеньне справаздачнасьці паводле ўстаноўленай сыстэмы справаводства;

е) найманьне і звальненьне служачых і рабочых цэнтральнага апарату, заключэньне каляктыўных і паасобных працоўных дагавораў і паданьне ў Наркамзем БССР на зацьверджаньне аб назначэньні або звальненьні дырэктароў саўгасаў, якія ўваходзяць у склад Трэсту, і паведамленьне НКЗ БССР аб прызначэньні і звальненьні намесьнікаў дырэктароў саўгасаў;

ж) найманьне і здача ў арэнду і набываньне будынкаў, а таксама набываньне праў забудоўкі.

Дамы,пабудаваныя за кошт фонду палепшаньня быту рабочых і служачых, здаюцца ў арэнду з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР;

з) адчужэньне і застава старых і нягодных будынкаў, пабудоў і абсталяваньня ў межах да 100.000 р. (у кожным выпадку), а звыш гэтай сумы—з дазволу Наркамзему БССР. На адчужэньне і заставу права забудоўкі патрэбен абавязковы дазвол НКЗ БССР;

і) узяцьце і здача ў арэнду абсталяваньня і дапаможных прадпрыемстваў на тэрмін да 6 год, а звыш гэтага тэрміну— з дазволу НКЗ БССР; узяцьце і здача ў арэнду вытворчых прадпрыемстваў робіцца толькі з дазволу НКЗ БССР незалежна ад тэрміну;

к) выдача і прыняцьце для аплаты грашовых абавязацельстваў;

л) заключэньне ўсякіх патрэбных для ажыцьцяўленьня мэт Трэсту згод, актаў і дагавораў, у тым ліку дагавораў падраду і пастаўкі і выдача даручэньняў;

м) удзел з дазволу НКЗ БССР у арганізацыі сындыкатаў, акцыйных (паявых) таварystваў і інш. гандлёва-прамысловых аб'яднаньняў і набыцьцё іх акцый і паёў, а таксама удзел у сындыкатных кампаніях і таварыствах, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбытку, калі іх задачы адпавядаюць мэтам, паказаным у арт. 1 гэтага статуту;

н) арганізацыя раздробнай гандлёвай сеткі для продажу прадукцыі Трэсту пры захаваньні ўмоў, паказаных у законе;

о) прававаньне на судзе і прадстаўніцтва у асобе дырэктара або яго намесьніка, на падставе толькі гэтага статуту, без прадстаўленьня асобнага паўнамоцтва, ва ўсіх адміністрацыйных установах і службовых асоб.

17. Парадак падпісваньня выходзячых з Трэсту папер устанаўліваецца дырэктарам. Усякія дагавары, згоды, абавязацельствы, даручэньні падпісваюцца дырэктарам або яго Намесьнікам.

Дырэктар Трэсту і яго намесьнікі маюць права упаўнаважваць даручэньнем кожнага супрацоўніка Трэсту для падпісаньня тых або іншых дакумантаў. Дакуманты грашовага характару сьцьвярджаюцца Галоўным Бухгальтарам Трэсту.

Гадавыя справаздачы і балянсы падпісваюцца дырэктарам або яго Намесьнікам і кіраўніком ФУС.

18. Дырэктар і яго намесьнікі павінны ўжываць усе захады для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у гэтым статуце, і прыцягваюцца па-

водле чынных законаў да дысцыплінарнай, крымінальнай і грамадзянскай адказнасьці за цэласьць даручанай маемасьці і гаспадарчае вядзеньне спраў.

### IV. Кіраваньне вытворчымі прадпрыемствамі, якія ўваходзяць у склад Трэсту.

19. Кіраўніцтва паасобнымі вытворчымі прадпрыемствамі, што ўваходзяць у склад Трэсту (арт. 2), ажыцьцяўляецца дырэктарамі апошніх, якія дзейнічаюць паводле асобнага палажэньня аб кіраваньні даным прадпрыемствам, зацьверджанага дырэктарам Трэсту і на падставе выданай дырэктарам Трэсту даверанасьці.

### V. Спэцыяльныя капіталы Трэсту і прыбытак.

20. Апроч статутнага капіталу ўтвараецца:

а) амартызацыйны капітал;

б) капітал пашырэньня прадпрыемстваў;

в) фонд палепшаньня быту рабочых і служачых;

г) фонд садзейнічаньня вынаходніцтву;

д) фонд садзейнічаньня сацыялістычнаму спаборніцтву;

е) фонд прэміяваньня за рацыяналізатарскія прапановы.

Гэтыя капіталы ўтвараюцца і прызначаюцца на паказаныя мэты і выдаткоўваюцца ў парадку і на падставе спэцыяльных законаў.

21. Амартызацыя маемасьці Трэсту робіцца паводле арт. арт. 44 і 45 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

22. Вызначэньне разьмераў прыбыткаў і страт, разьмеркаваньне прыбыткаў і вызначэньне адлічэньняў ад прыбыткаў у спэцыяльныя капіталы і ў даход дзяржавы, папаўненьне страт, а таксама выдаткаваньне спэцыяльных капіталаў робіцца паводле арт. арт. 48-49 таго-ж Палажэньня.

### VI. Справаздачнасьць Трэсту і рэвізія яго дзейнасьці.

23. Штогод, не пазьней як праз тры месяцы пасьля заканчэньня аперацыйнага году, які лічыцца з 1 студзеня да 31 сьнежня, дырэктар падае у НКЗ БССР для разгляду і зацьверджаньня складзеныя паводле ўстаноўленых законам правіл справаздачу, балянс і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт, а таксама праект папаўненьня страт і падзелу прыбыткаў паводле Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

Адклад паданьня справаздач і балянсаў дазваляецца ў парадку, прадугледжаным правіламі публічнай справаздачнасьці.

24. Зацьверджаныя балянсы і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт Трэсту публікуюцца Дырэктарам у парадку, устаноўленым правіламі публічнай справаздачнасьці.

25. Рэвізія дзейнасьці Трэсту ажыцьцяўляецца НК Земляробства БССР. Дырэктар павінен паказваць належным органам НКЗ БССР для агляду ўсе кнігі і дакуманты, справы і перапіску і рабіць ім усякую дапамогу пры рэвізіі і абсьледваньні дзейнасьці Трэсту.

26. Апроч выпадкаў, дакладна вызначаных чыннымі законамі, і іншыя органы, апроч НКЗ БССР, маюць права ў межах сваёй кампэтэнцыі даваць кіраўніку Трэсту паказаньні і патрабаваць ад яго паданьня справаздач і зьвестак ня інакш, як праз Наркамзем БССР.

### VII. Зьмены статуту Трэсту.

27. Павялічэньне або зьмяншэньне разьмеру статутнага капіталу або іншыя зьмены ў гэтым статуце робяцца паводле арт. арт. 11 і 14 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

### VIII. Спыненьне дзейнасьці Трэсту.

28. Трэст спыняе сваю дзейнасьць ліквідацыяй, далучэньнем або падзелам, паводле арт. арт. 55—64 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

---

Зацьвярджаю.
Народны Камісар Земляробства БССР
1 верасьня 1932 г.
Масюкоў.

## 36. Статут Менскага Дзяржаўнага Малочна-Прамысловага Трэсту „Менмалпрамтрэст“.

1. У мэтах далейшага разгортваньня сацыялістычнай жывёлагадоўлі, стварэньня моцнай кармовай базы і на гэтай аснове шпаркага разгортваньня будаўніцтва буйных малочных таварна-жывёлагадоўчых савецкіх гаспадарак з закончаным абаротам стада сталага матачнага складу кароў, выкананьня пляну здачы дзяржаве таварнай прадукцыі, лепшага аперацыйна-дыфэрэнцыяванага кіраўніцтва, палепшаньня рабочага забясьпечаньня і разгортваньня гандлю арганізуецца Менскі Дзяржаўны Малочна-прамысловы трэст рэспубліканскага значэньня, пад назвай „Менмалпрамтрэст“, які знаходзіцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Земляробства БССР і дзейнічае на падставе гэтага статуту.

2. У склад Трэсту уваходзяць савецкія жывёлагадоўчыя гаспадаркі з маючыміся пры іх вытворчымі прадпрыемствамі і навучальнымі ўстановамі, сьпіс якіх далучаецца.

3. Для ажыцьцяўленьня задач, паказаных у арт. 1, Трэст:

а) ажыцьцяўляе кіраўніцтва ўваходзячымі ў яго сыстэму гаспадаркамі, надаючы ім спэцыяльны малочна-жывёлагадоўчы напрамак, як галоўнай вядучай галіне гаспадаркі;

б) распрацоўвае мерапрыемствы па ўзбуйненьні існуючых гаспадарак і стварэньні новых, арганізуе спэцыяльныя малочна-жывёлагадоўчыя савецкія гаспадаркі на базе асвоеных зямельных плошчаў, а таксама буйныя вучэбна-паказальныя фэрмы;

в) дапамагае арганізацыі ў калгасах малочна-жывёлагадоўчых фэрм і садзейнічае арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў;

г) прымае ўсе захады да рацыяналізацыі і мэханізацыі вытворчых працэсаў малочных таварных фэрм і ўнядрэньня ў іх апошніх дасягненьняў навукі і тэхнікі;

д) арганізуе прадпрыемствы па пераапрацоўцы сельска-гаспадарчай сыравіны (сырамаслазаводы, бровары і крухмальныя заводы, млыны, цагельні і інш. тэхпрадпрыемствы) у сваіх гаспадарках і садзейнічае арганізацыі іх у навакольных калгасах;

е) прымае меры да поўнага ўкамплектаваньня статку ўваходзячых у склад Трэста гаспадарак, паводле плянавых заданьняў НКЗ БССР;

ж) прымае неабходныя захады да палепшаньня прадукцыйнасьці статку, догляду жывёлы, зьніжэньня проценту адыходу ад рознага рода хвароб і нездавальняючага ўтрыманьня жывёлы, павялічэньня тэмпаў прыросту статку, а таксама наглядае за захаваньнем племянной жывёлы;

з) прымае ўсё захады да поўнай і свечасовай здачы прадукцыі саўгасамі дзяржаве, не дапускаючы разбазарваньня таварнай прадукцыі;

і) устанаўляе спэцыяльныя прэміі за перавыкананьне пляну здачы прадукцыі паасобнымі саўгасамі і таварнымі фэрмамі;

к) прымае меры для забясьпечаньня ўсяго пагалоўя жывёлы ўласнымі грубымі і сочнымі кармамі, устанаўляе нормы і парадак выдачы кармоў канцэнтраваных і грубых і наглядае за іх выдаткаваньнем, вядзе поўны і сталы вучот кармавых рэсурсаў і складае кармавыя балянсы як па саўгасах, так і па Трэсту;

л) прымае меры да ўстаноўкі, паводле зацьверджанага пляну НКЗ БССР, сілосных установак, запаўненьня іх сілоснымі кармамі, а таксама да сваечасовага сканчэньня будаўніцтва ў гаспадарках, неабходнага для забясьпечаньня жывёлы адпаведнай колькасьцю жывёла месц;

м) падрыхтоўвае і перападрыхтоўвае патрэбныя кадры спэцыялістаў і кадры масавай кваліфікацыі з лепшых рабочых-ударнікаў саўгасаў і калгасаў;

н) распрацоўвае мерапрыемствы па арганізацыі сацыялістычных форм і мэтадаў працы ў падпарадкаваных гаспадарках, поўнага пераходу на зьдзельшчыну, зьнішчэньні абязьлічкі і наглядае і кантралюе за іх ажыцьцяўленьнем;

о) распрацоўвае мерапрыемствы па забясьпечаньні гаспадарак патрэбнай рабсілай і кантралюе іх выкананьне, а таксама арганізуе мерапрыемствы па разгортваньні рабочага вынаходніцтва і рацыяналізацыі вытворчых працэсаў гаспадаркі;

п) арганізуе жывы інструктаж, абсьледваньне, праверку і кантроль працы на мясцох, вывучае па даных абсьледваньняў і другіх матарыялах становішча працы на мясцох і распрацоўвае практычныя мерапрыемствы па палепшаньні кіраўніцтва саўгасаў, сувязі, жывога інструктажу і плянаваньня працы на мясцох.

4. Трэст складае самастойную гаспадарчую адзінку і дзейнічае на падставе гаспадарчага разрахунку ў адпаведнасьці з плянавым

заданьнямі, зацьверджанымі Народным Камісарыятам Земляробства БССР. Ад дня рэгістрацыі Трэст мае правы юрыдычнай асобы.

5. За свае абавязацельствы Трэст адказвае толькі тою сваею маемасьцю, якая паводле чынных законаў можа спаганяцца. Дзяржава за даўгі Трэсту не адказвае, а таксама на маемасьць Трэсту ня можа накіроўвацца якое-небудзь спагнаньне за дзяржаўныя даўгі і абавязацельствы.

6. Трэст можа рабіць на ўсёй тэрыторыі Саюзу ССР усе апярацыі у тым ліку і гандлёвыя, якія патрэбны для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у арт. 1 гэтага статуту.

У замежным гандлі Трэст удзельнічае ў парадку, устаноўленым адпаведнымі законамі.

7. Трэст уладае, карыстаецца і распараджаецца перададзенай яму маемасьцю і абкладаецца дзяржаўнымі і мясцовым падаткамі і зборамі паводле агульных законаў, апроч выдаткаў, паказаных у Палажэньні аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г. і ў спэцыяльных законах.

8. Бясплатнае адбіраньне ад Трэсту якой-небудзь маемасьці дазваляецца толькі паводле правіл, паказаных у арт. 7 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

9. У дагаворныя адносіны Трэст абавязан уступаць выключна з дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі і каперацыйнымі арганізацыямі, якія ўдзельнічаюць як контрагенты.

10. Ва ўсіх выпадках, не прадугледжаных гэтым статутам,Трэст дзейнічае паводле Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г., а таксама паводле чынных законаў.

11. Трэст мае пячатку з дзяржаўным гэрбам і сваёю назваю.

### II. Статутны капітал Трэсту.

12. Статутны капітал Трэсту вызначаецца Наркамземам па ўзгадненьні з Наркамфінам БССР арыентыровачна да зацьверджаньня балянсу за першы апэрацыйны пэрыяд дзейнасьці Трэсту, пасьля чаго статутны капітал Трэсту будзе ўдакладнен. Пераданыя Трэсту, паводле арт. 2 гэтага статуту, гаспадаркі ў статутны капітал Трэсту не залічваюцца.

### III. Кіраўніцтва Трэсту, яго правы і абавязкі.

13. Для кіраваньня Трэстам Народны Камісарыят Землярробства БССР прызначае Дырэктара і яго намесьнікаў тэрмінам на 2 гады.

Да зыходу тэрміну паўнамоцтва Дырэктар і яго намесьнікі могуць звальняцца НКЗ БССР.

14. Кіраўніцтва Трэсту знаходзіцца ў г. Менску.

15. Дырэктар Трэсту, паводле гэтага статуту і чынных законаў, пад агульным наглядам Народнага Камісарыяту Землярробства БССР, вядзе самастойна ўсю арганізацыйную і адміністрацыйную працу Трэста, кіруючы справамі і маемасьцю, што знаходзіцца ў яго распараджэньні, і робячы ўсе дагаворы і апярацыі, якія належаць да кампэтэнцыі Трэсту.

16. Да кампэтэнцыі Дырэктара, у паасобку належаць:

а) складаньне і паданьне ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня вытворча-фінансавага пляну і плянаў капітальнага рамонту, а таксама плянаў будаўніцтва новых вытворчых прадпрыемстваў, даабсталяваньня і пераабсталяваньня існуючых;

б) калі Народным Камісарыятам Земляробства БССР ня будзе зацьверджаны вытворча-фінансавы плян Трэсту да пачатку аперацыйнага году, то дырэктар Трэсту да зацьверджаньня пляну ажыцьцяўляе вытворчую дзейнасьць паводле складзенага ім пляну;

в) падача для зацьверджаньня ў Народны Камісарыят Земляробства праектаў важнейшых зьмен зацьверджаных плянаў;

г) складаньне і падача ў Народны Камісарыят Земляробства БССР для зацьверджаньня пэрыядычных справаздач і балянсаў, праектаў разьмеркаваньня прыбыткаў і папаўненьня страт;

д) арганізацыя касы, вядзеньне справаздачнасьці паводле устаноўленай сыстэмы справаводства;

е) найманьне і звальненьне служачых і рабочых цэнтральнага апарату, заключэньне каляктыўных і паасобных працоўных дагавароў і паданьне ў Наркамзем БССР на зацьверджаньне аб назначэньні або звальненьні дырэктароў саўгасаў, якія ўваходзяць у склад Трэсту, і паведамленьне НКЗ БССР аб прызначэньні і звальненьні намесьнікаў дырэктароў саўгасаў;

ж) найманьне, здача ў арэнду і набываньне будынкаў, а таксама набываньне праў забудоўкі;

Дамы, пабудаваныя за кошт фонду палепшаньня быту рабочых і служачых, здаюцца ў арэнду з дазволу Народнага Камісарыяту Земляробства БССР;

з) адчужэньне і застава старых і нягодных будынкаў, пабудоў і абсталяваньня ў межах да 100.000 р. (у кожным выпадку), а звыш гэтай сумы-з дазволу Наркамзему БССР. На адчужэньне і заставу права забудоўкі патрэбен абавязковы дазвол НКЗ БССР;

і) узяцьце і здача ў арэнду абсталяваньня і дапаможных прадпрыемстваў на тэрмін да 6 год, а звыш гэтага тэрміну—з дазволу НКЗ БССР; узяцьце і здача ў арэнду вытворчых прадпрыемстваў робіцца толькі з дазволу НКЗ БССР незалежна ад тэрміну;

к) выдача і прыняцьце для аплаты грашовых абавязацельстваў;

л) заключэньне ўсякіх патрэбных для ажыцьцяўленьня мэт Трэсту згод, актаў і дагавораў, у тым ліку дагавораў падраду і пастаўкі і выдача даручэньняў:

м) удзел з дазволу НКЗ БССР у арганізацыі сындыкатаў, акцыйных (паявых) таварыстваў і інш. гандлёва-прамысловых аб'яднаньняў і набыцьцё іх акцый і паёў, а таксама ўдзел у сындыкатных кампаніях і таварыствах, якія ня маюць на мэце атрыманьня прыбытку, калі іх задачы адпавядаюць мэтам, паказаным у арт. 1 гэтага статуту;

н) арганізацыя раздробнай гандлёвай сеткі для продажу прадукцыі Трэсту пры захаваньні ўмоў, паказаных у законе;

о) прававаньне на судзе і прадстаўніцтва ў асобе Дырэктара або яго намесьніка, на падставе толькі гэтага статуту, без прадстаўленьня асобнага паўнамоцтва, ва ўсіх адміністрацыйных установах і службовых асоб.

17. Парадак падпісваньня выходзячых з Трэсту папер устанаўліваецца Дырэктарам. Усякія дагаворы, згоды, абавязацельствы, даручэньні падпісваюцца Дырэктарам або яго намесьнікам.

Дырэктар Трэсту і яго намесьнікі маюць права ўпаўнаважваць даручэньнем кожнага супрацоўніка Трэсту для падпісаньня тых ці іншых дакумантаў. Дакуманты грашовага характару сьцьвярджаюцца Галоўным Бухгальтарам Трэсту.

Гадавыя справаздачы і балянсы падпісваюцца Дырэктарам або яго намесьнікам і кіраўніком ФУС.

18. Дырэктар і яго намесьнікі павінны ўжываць усе захады для ажыцьцяўленьня мэт, паказаных у гэтым статуце і прыцягваюцца паводле чынных законаў да дысцыплінарнай, крымінальнай і грамадзянскай адказнасьці за цэласьць даручанай маемасьці і гаспадарчае вядзеньне спраў.

### IV. Кіраваньне вытворчымі прадрыемствамі, якія ўваходзяць ў склад Трэсту.

19. Кіраўніцтва паасобнымі вытворчымі прадпрыемствамі, што ўваходзяць у склад Трэсту (арт. 2), ажыцьцяўляецца дырэктарамі апошніх, якія дзейнічаюць паводле асобнага палажэньня аб кіраваньні даным прадпрыемствам, зацьверджанага Дырэктарам Трэсту і на падставе выданай Дырэктарам Трэсту даверанасьці.

### V. Спэцыяльныя капіталы Трэсту і прыбытак.

20. Апроч статутнага капіталу ўтвараюцца:

а) амартызацыйны капітал,

б) капітал пашырэньня прадпрыемстваў,

в) фонд палепшаньня быту рабочых і служачых,

г) фонд садзейнічаньня вынаходніцтву,

д) фонд садзейнічаньня сацыялістычнаму спаборніцтву,

е) фонд прэміяваньня за рацыяналізатарскія прапановы.

Гэтыя капіталы ўтвараюцца і прызначаюцца на паказаныя мэты і выдаткоўваюцца ў парадку і на падставе спэцыяльных законаў.

21. Амартызацыя маемасьці Трэсту робіцца паводле арт. арт. 41 і 45 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

22. Вызначэньне разьмераў прыбыткаў і страт, разьмеркаваньне прыбыткаў і вызначэньне адлічэньняў ад прыбыткаў у спэцыяльныя капіталы і ў даход дзяржавы, папаўненьне страт, а таксама выдаткаваньне спэцыяльных капіталаў робіцца паводле арт. арт. 48-49 таго-ж Палажэньня.

### VI. Справаздачнасьць Трэсту і рэвізія яго дзейнасьці.

23. Штогод, не пазьней як праз тры месяцы пасьля заканчэньня аперацыйнага году, які лічыцца з 1-га студзеня да 31 сьнежня, ды-

рэктар падае ў НКЗ БССР для разгляду і зацьверджаньня складзеныя паводле ўстаноўленых законам правіл справаздачу, балянс і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт, а таксама праект папаўненьня страт і падзелу прыбыткаў паводле Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 году.

Адклад паданьня справаздач і балянсаў дазваляецца ў парадку, прадугледжаным правіламі публічнай справаздачнасьці.

24. Зацьверджаныя балянсы і разьмеркаваньне прыбыткаў і страт Трэсту публікуюцца Дырэктарам у парадку, устаноўленым правіламі публічнай справаздачнасьці.

25. Рэвізія дзейнасьці Трэсту ажыцьцяўляецца НК Земляробства БССР. Дырэктар павінен паказваць належным органам НКЗ БССР для агляду ўсе кнігі і дакуманты, справы і перапіску і рабіць ім усякую дапамогу пры рэвізіі і абсьледваньні дзейнасьці Трэсту.

26. Апроч выдаткаў, дакладна вызначаных чыннымі законамі, і іншыя органы, апроч НКЗ БССР, маюць права ў межах сваёй кампэтэнцыі даваць кіраўніку Трэсту паказаньні, патрабаваць ад яго паданьня справаздач і зьвестак ня інакш, як праз НКЗ БССР.

### VII. Зьмены статуту Трэсту.

27. Павялічэньне або зьмяншэньне разьмеру статутнага капіталу або іншыя зьмены ў гэтым статуце робяцца паводле арт. арт. 11 і 14 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

### VIII. Спыненьне дзейнасьці Трэсту.

28. Трэст спыняе сваю дзейнасьць ліквідацыяй, далучэньнем або падзелам, паводле арт. арт. 55—64 Палажэньня аб дзяржаўных прамысловых трэстах за 29 чэрвеня 1927 г.

---

Адказны Рэдактар **І. Фрыдман.**

Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАСА БССР. Галоўлітбел 412. Зак. № 1190. Тыраж 3820.